Год II. Нядзеля, 1 студня 1922 г. (19 дзекабра 1921 г.) № 1

# БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ: Вільня, Вострабрамская 9 (Wilno, Ostrobramska 9).
Адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 2 гадзіны.

Падпіска з паштовай нерасылкай на 3 месяцы 400 п. м., на 6 мес. 750 п. мар. За граніцай у два разы даражэй.
Цана абвестак: 75 польск. мар. за радок самага дробнага шрыфту.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам пісаўшага і адрэсам яго (для ведама Рэдакцыі). Непрынятыя у друк рукапісы назад не адаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

№ каштуець 30 польск. мар.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.

## Віншуем Вас з Новым Годам!

### З новым Годам.

Скрыты сьнегам ўсе паляны, вада — цьвёрдым лёдам... Вітаю вас, беларусы, браткі, з Новым Годам.

Кругом гудзе, лес хістае бура — поўным ходам... Дай-жа Божа, каб пагодна стала з Новым Годам.

Каб ужо нас асьвяціла ясьненькім усходам і свабодай абагрэла сонца з Новым Годам.

Янка Макрыца.



## Літва і Віленшчына.

Літоўскі ўрад перасьлаў гэтымі днямі на імя старшыні Лігі Народаў свой пратэст проціў выбараў у Віленскі Сойм, паведамляючы, што „калі-б Віленскі Сойм і састаяўся, то Літва будзе ўважаць яго за нямеючы ніякай вартасьці“.

Такім чынам, літоўскі народ, ад імя якога гаворыць урад і сойм літоўскія, выказаўся па пытаньню аб Віленскім Сойме, які склікаецца на 8 студня 1922 г. зусім ясна і пры тым зусім згодна з голасам тутэйшага ня польскага грамадзянства, якое адмовілася выбіраць у Віленскі Сярэдня-літоўскі Сойм.

У той самы час прэзыдэнт міністраў літоўскага ўраду д-р. Грыніус адчытаў у Літоўскім Сойме дэклярацыю ў справе Віленскага Сойму, у якой, выказаўшы адносіны Літоўскага ўраду да Віленскага Сойму так званай Сярэдняй Літвы, вызначыў цэлы рад палажэньняў, якімі будзе кіравацца літоўскі ўрад у сваёй палітыцы да ўсходняй часьці Літвы, г. ё., да Віленшчыны.

Галоўныя з іх вось якія:

I. Усходняя Літва атрымае сваю краёвую аўтаномію са сваім Соймам у Вільні.

II. Аўтаномны Віленскі Сойм будзе выдаваць свае законы па пытаньням: ужываньня краёвых моваў, школ, рэлігіі, спраў культурных, краёвых судоў, краёвай гаспадаркі і інш.

III. Агульны літоўскі Сойм і агульны ўрад, у якіх будуць браць удзел прадстаўнікі аўтаномнага абшару, будзе ведаць такімі справамі: заграничныя зносіны, абвешчаньне вайны, заключэньне міра, агульная армія, фінансы, граніцы, дарогі і г. д.

Дэклярацыя запяўняе паасобным народам Усходняй Літвы: беларусам, палякам, яўрэям і іншым поўную культурную аўтаномію.

Літоўскі Сойм цалком прыняў гэтую дэклярацыю,

Разважаючы над дэклярацыяй, кожны бесстароньні чалавек павінен прызнаць яснасьць яе формы, шчырасьць яе тону, дэмакратычнасьць аснаўных палажэньняў яе, справядлівых у адносінах да паасобных народаў, засяляючых Усходнюю Літву.

Што-ж датычыць пытаньня аб аўтаноміі Віленшчыны, то і яно, як нам здаецца, вырашана згодна з пажаданьнямі паасобных нацыянальнасьцяў краю апрача, разумеецца, польскай, хоць і ня ўсей.

Мы пакідаем за сабою права яшчэ раз вярнуцца да пытаньня аб аўтаноміі Віленшчыны ў складзе Літоўскай рэспублікі і разгледзім гэтае пытаньне ў сувязі з выяўляным у свой час становішчам беларускіх нацыянальны арганізацый краю. Покуль-жа што мы з задаваленьнем выказваем надзею, што літоўска-беларуская прыязьнь, вытрымаўшая столькі спакусаў, цяпер яшчэ больш узрасьце і ўзмацуецца і скончыцца ў недалёкай будучыне брацкім саюзам двух вольных народаў.

I так Літва сказала нам сваё шчырае слова, якога мы чакалі даўно.

Пажадаем-жа, каб у Новым Годзе словы гэтыя сталі жыцьцёвым фактам!

М. К.



## Што чуваць у сьвеце?

### Міжнародная эканамічная канфэрэнцыя.

У бліжэйшым часе адбудзецца ў Парыжы нарада міністраў заграничных спраў Францыі, Англіі й Італіі па пытаньню аб склíканьні міжнароднай эканамічнай канфэрэнцыі дзеля гаспадарчага адраджэньня Сярэдняй Эўропы з помаччу Расеі.

### Канфэрэнцыя балтыцкіх дзяржаў

Газэты паведамляюць, што балтыцкая канфэрэнцыя занялася пытаньнем аб будучых гандлёвых зносінах з Расеяй. Палітычныя пытаньні адкладзены.

### Новая канфэрэнцыя ў Вашынгтоне.

Амэрыканскі сэнатар Франс запрапанаваў склікаць у сакавіку новага году яшчэ адну канфэрэнцыю ў Вашынгтоне, на якую трэба заклікаць ранейшых ворагаў Амэрыкі, а таксама й Расею.

### Амэрыканскія капіталісты і Расея.

Амэрыканскія капіталісты заключылі з бальшавіцкім урадам дагавор на 20 гадоў аб выкарыстаньні натуральных багацьцяў Расеі і дастаўцы харчоў у Савецкую Расею.

### Амэрыканская помач галадуючым расейцам.

Амэрыканскі сэнат асыгнаваў 21 міліён даляраў на падмогу галодным у Расеі.

### Аб Устаноўчым Сойму ў Расеі

Савецкі прадстаўнік у Бэрліне заявіў журналістам, што весткі аб склíканьні Устаноўчага Сойму ў Расеі ня маюць ніякага грунту.

### Украінска-літоўскія перагаворы.

З 17 сьнежня ў Харкаве вядуцца перагаворы з прадстаўніком Літвы аб дадатковым украінска-літоўскім дагаворы

### Зьезд украінак.

У Львове быў скліканы на Каляды украінскі жаноцкі зьезд. Па адчыненьні зьезду і выбарах прэзыдыуму польская паліцыя зьезд закрыла.

### Аб адстаўцы літоўскага міністра Пурыцкіса.

Эстонскі прадстаўнік у Коўні Шмідт сказаў карэспандэнту аднэй рэвальскай газэты, што д-р Пурыцкіс павінен быў падацца ў адстаўку дзеля розьніцы думак у справе адкінутага праекта Гіманса. Пурыцкіс належаў да тэй групы, якая не згаджалася з катэгарычным адхіленьнем праекта, прыймаючы яго за грунт для перагавораў з Польшчаю. Урад, аднака, павінен быў урэшце уступіць войску і народу. (Пат).

### Зьезд французскіх камуністаў.

МАРСЭЛЬ, 28 сьнежня (А. В.) Тут адбываецца зьезд французскіх камуністаў. Зьехалася 350 дэлегатаў.

### Усерасейскі зьезд саветаў.

20 сьнежня ў Маскве адчыніўся 9-ты ўсерасейскі зьезд саветаў. У ўступовай прамове Ленін сказаў, што саветы павінны дзеля свае карысьці зрабіць некаторыя часовыя ўступкі капіталізму. Гэтым тлумачыцца ўся новая палітыка расейскіх бальшавікоў.

### Расейска-італійская гандлёвая ўмова.

РЫМ, 28 сьнежня (А. В.) 26 сьнежня падпісана расейска-італійская гандлёвая ўмова.

### Кангрэс эспэрантыстаў.

Істнуючыя ў Варшаве Таварыствы эспэрантыстаў: „Конкордо“, „Лаборо“ і „Поля Эспэрантыста Соцьето“ склікаюць на налецьця вясною ў Варшаве кангрэс эспэрантыстаў усяе Польшчы.

Мэтаю Кангрэса між іншым ёсьць злучэньне ўсіх таварыстваў і гурткоў эспэрантыстаў у вадзін агульны для ўсяе Польшчы хаўрус. („В. Откл.“).

### Сьмерць слаўнага пісьменьніка.

ХАРКАЎ, 29 сьнежня 1921 г. (А.В.) 26-га сьнежня памёр у Палтаве Валадзімір Галакціонавіч Караленка.

### Паўстаньне ў Эгіпту.

БЭРЛІН. 29. XII. (А. В.) „Deutsche Allgemeine Zeitung“ паведамляе з Лёндану, што шырыцца паўстаньне ў Эгіпту. Кабінэт пастанавіў зрабіць пратэст проці паступкаў цяперашняга ангельскага ўраду.

## Палітычныя весткі.

### Дэклярацыя Беларускага Ураду ў справе выбараў у Віленскі Сойм.

„Украінське Слово“ (№ 99) паведамляе:

„Рада міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі вынесла 6 сьнежня 1921 г. такую пастанову ў справе абвешчаных польскім урадам выбараў у Віленскі Сойм: „Вяручы пад увагу: 1) што тэрыторыя так званае „Сярэдняе Літвы“ (Віленскага краю, названага палякамі „Сярэдняю Літвою“) штучна выразана з цэлага краю і не становіць самастойнага арганізму, 2) што выбары ў Сойм маюць адбывацца пад польскай акупацыяй і пад націскам акупацыйнай улады, і 3) што актыўныя беларускія сілы гэтаю ўладаю загнаны ў турмы, канцэнтрацыйныя лагеры і на эміграцыю закардонам, а тыя, што заста-

## Беларусы, ліцьвіны і яўрэі ня йдуць у гэты Сойм

